www.nv-online.info

№ 94 (3835)

29 лістапада 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## *У 2014 год — разам з «Народнай Воляй»!*

***Не заўважым, як праляціць час і на пошце скажуць: “Падпіска на першую палову 2014 года завершана”. Не спазніцеся! І надалей будзем разам.***

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

**АКТУАЛІІ**



*Святлана КАЛІНКІНА*

# Такія розныя!

**“Я апладзірую тым, хто выйшаў на Майдан за еўрапейскую інтэграцыю”. Прэзідэнт Украіны Віктар Януковіч падтрымаў людзей, якія на плошчах і вуліцах украінскіх гарадоў пратэстуюць супраць ягонага рашэння адкласці падпісанне дамовы аб асацыяцыі з Еўрасаюзам. Януковіч падзякаваў апазіцыі за грамадзянскую свядомасць і пацвердзіў еўрапейскі курс развіцця Украіны.**

**Тое, што адбываецца ў Кіеве, многіх увяло ў ступар, сітуацыя канчаткова заблыталася, у чорна-белую карціну свету ўкраінскія падзеі не ўпісваюцца.**

***“Як бацька не можа пакінуць сям’ю без хлеба, так і я не маю права пакінуць людзей на волю лёсу з тымі праблемамі, якія могуць паўстаць, калі пад ціскам, які мы адчуваем, спыніцца вытворчасць, і мільёны грамадзян будуць выкінуты на вуліцы. Таму мне даводзіцца звяртацца да няпростых рашэнняў. Таму я часам рызыкую быць незразуметым. І таму я прашу сёння наш народ уважліва выслухаць мяне асабіста. Я ніколі не зраблю ні аднаго кроку ў шкоду Украіне і народу. Воля грамадзян Украіны была, ёсць і будзе вырашальнай для кожнага майго рашэння... Я веру — мы пераадолеем усе цяжкасці на шляху развіцця нашай дзяржавы, таму што няма такіх перашкод, якія не пераадолеў бы мудры і згуртаваны народ. Мы ніколі і нікому не павінны дазваляць перашкаджаць нам...”***

**У кароткай заяве Віктар Януковіч патлумачыў і сваю стратэгію, і сваю тактыку. Украіна ідзе і будзе ісці еўрапейскім шляхам развіцця. Праўда, не трэба быць Настрадамусам, каб прадказаць, што гэтага не сцерпіць іхная і наша вялікая і амбіцыйная суседка. Украінскія рэгіёны, вытворчасць якіх арыентавана на Расію, апынуцца ў цяжкім эканамічным становішчы. Таму Януковічу сёння патрэбны грошы. І вось якраз пра грошы з Захадам кіраўніцтву Украіны дамовіцца пакуль не ўдалося.**

***“Як бацька не можа пакінуць сям’ю без хлеба...”* Януковіч шукае грошы, просіць крэдыт Міжнароднага валютнага фонду і дапамогі ЕС, каб стварыць падушку бяспекі для рэфармавання тых вытворчасцяў і тых рэгіёнаў, якім з-за пагаршэння адносін з Расіяй пагражае цяжкі эканамічны крызіс. Грошы, каб Украіна перажыла цяжкія часы і адрадзілася ў новай якасці.**

**Лукашэнка таксама па ўсім свеце шукае грошы. Але з якой нагоды?..**

**У такія моманты, якія зараз перажывае Украіна, асабліва востра разумееш, што ў беларускай улады ўвогуле няма бачання таго, куды ідзе краіна, што трэба рабіць сёння, што заўтра. І навошта гэта рабіць.**

**У нас няма прадуманай палітыкі, няма стратэгіі. Януковіч шукае грошы, і Лукашэнка шукае грошы. Тактыка, здаецца, адна і тая ж. Але ж нам трэба ўрваць дзе-небудзь пару соцень мільёнаў долараў, праесці, “цацку” якую набыць, пахваліцца, зноў урваць, зноў праесці... Усё робіцца дзеля захавання дзеючай улады, не для развіцця, не для рухання наперад, а для захавання сённяшняга статус-кво.**

**А Януковіч шукае грошы, каб з-за пары буйных заводаў, якія зараз зарыентаваны толькі на Расію, не стаяла на каленях уся краіна. Каб Украіна ўстала з кален.**

**Навошта яму гэтыя праблемы? Чаму ён не бярэ прыклад з Лукашэнкі?.. Тым больш што гэта так проста — прысмактацца да Расіі, і няхай усё ідзе, як ідзе.**

**Але калі паставіць пытанне па-іншаму, то адказ становіцца відавочным. Ці патрэбна Расіі моцная і заможная Украіна-суседка? Ці патрэбна Расіі моцная і заможная суседка Беларусь? А Еўропе, Захаду мы якія патрэбны? Дык у якім накірунку трэба ісці, да каго хіліцца?**

**Украіна адказала на гэтыя пытанні. І зараз шукае магчымасці аблегчыць цяжкасці выхаду з-пад неадчэпнай апекі, якая не дае і не дасць дыхнуць нікому са сваіх сатэлітаў. І тым больш не дасць вырвацца наперад, бо гэта не будзе адпавядаць інтарэсам самой Расіі, стане моцным ударам па яе імперскіх амбіцыях. Кволыя, нямоглыя і залежныя мы Расіі вельмі любыя, а вось моцныя і самастойныя — ні ў якім разе, бо тады мы — жывы папрок.**

**Вось толькі беларуская ўлада нават не выносіць гэтыя праблемы на парадак дня. Мы схаваліся ў бульбу ад галоўнага, стратэгічнага пытання свайго развіцця, не ставім і не абмяркоўваем яго. Улада не дэманструе ніякага жадання думаць пра будучае, пра стратэгію. Жывём адным днём. А ўсё таму, што для кіраўніка краіны і бліжэйшых яго паплечнікаў захаванне ўлады стала не сродкам рэалізацыі прадуманай дзяржаўнай палітыкі, а мэтай асабістага існавання.**

**“Што я магу зрабіць для Украіны?” — у гэтым рэчышчы сёння дзейнічае Віктар Януковіч. “Што Беларусь можа зрабіць для мяне?” — у гэтым рэчышчы дзейнічае Аляксандр Лукашэнка.**

**А гэта, як мне здаецца, два зусім розныя падыходы. Прынцыпова розныя.**

**АФІЦЫЙНА**

## *З 1 снежня даражэе праезд*

*Кошт талончыка на адну паездку ў наземным грамадскім транспарце Мінска і ў метро ў кіёсках “Мінсктрансу” з 1 снежня ўзрасце да 3 тысяч рублёў.*



Адпаведнае рашэнне прыняў Мінгарвыканкам.

Купля талончыка ў кіроўцы абыдзецца ў 3,5 тыс. рублёў, карыстанне паслугамі экспрэс-маршрутаў — у 4300 рублёў. Адначасова падаражэюць і праязныя білеты — на звычайныя маршруты на 20%, на экспрэсы — на 13%.

Нагадаем, апошні раз праезд у гарадскім транспарце сталіцы даражэў роўна 2 месяцы таму назад — 1 кастрычніка. Тады яго кошт вырас на 500 рублёў: з 2 тыс. да 2,5 тыс. рублёў. Сабекошт адной паездкі на сённяшні дзень складае 6400 рублёў.

**ТОЧКІ НАД «і»**

## *Импортные лекарства никто не запрещал*

*Информация об ограничении импорта лекарственных средств в Беларусь не соответствует действительности. Об этом заявляет Минздрав.*

“*Запрещается ввоз на территорию Беларуси некачественных лекарственных средств, фальсифицированных лекарственных средств, а также лекарственных средств с истекшим сроком годности*, — напоминает пресс-служба Минздрава. — *При этом все зарегистрированные как отечественные, так и лекарственные средства зарубежного производства, могут находиться на фармацевтическом рынке. В настоящее время в Государственном реестре лекарственных средств зарегистрировано около 6 тысяч наименований, из которых более 1,2 тысячи — отечественного производства*”.

Минздрав отмечает, что в Беларуси создана эффективная система контроля за обращением лекарственных средств, которую высоко оценивают, в том числе международные эксперты: *“В ходе процедуры регистрации лекарственных средств ко всем производителям, вне зависимости от страны происхождения, предъявляются единые требования”.*

**Алина ВЕТРОВА.**

**БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА**

# Окно в Европу открылось в Вильнюсе



В четверг и в пятницу в Вильнюсе проходит самое крупное мероприятие председательства Литвы в Совете Европейского Союза — саммит “Восточного партнерства”. Три постсоветские страны — Украина, Грузия и Молдова — должны были на этом саммите либо подписать, либо парафировать соглашения об Ассоциации с ЕС. Однако до “часа икс” додержались только Грузия и Молдова, хотя Виктор Янукович также прибыл на саммит.

*“Это не соглашение о вступлении Грузии в ЕС, но с этим соглашением процесс европейской интеграции принимает необратимый характер. Мы переходим на очень ответственный этап интеграции с Евросоюзом”,* — заявил заместитель главы МИД Грузии **Давид Залкалиани**.

Впрочем, “сюрпризов” от Грузии и не ждали. В руководстве этой страны меняются первые лица, но неизменен выбранный стратегический курс. А вот Молдова стала настоящей “звездой” вильнюсского саммита. Как и Украина, Молдова из-за своего курса на сближение с ЕС оказалась под экономическим давлением России. Москва, ссылаясь на нарушение санитарных норм, в сентябре запретила импорт молдавского вина. Это был ощутимый удар, так как именно на вино приходится львиная доля экспорта страны. Однако Европейский Союз в ответ на экономическое давление России снял ограничения на ввоз вина из Молдовы.

Армения и Беларусь, которые также входят в программу “Восточное партнерство”, пока оказались вне игры. Внезапный разворот Армении оказался особенно болезненным, ведь официальный Ереван еще несколько месяцев назад планировал вместе с Грузией и Молдовой парафировать в Вильнюсе соглашение об ассоциации с ЕС. Однако под давлением России было принято прямо противоположное решение — о присоединении к Таможенному союзу. Аналитики считают, что Армения очень боится войны за Нагорный Карабах. И всеми силами стремится, чтобы Россия в этом конфликте была на ее стороне.

Что же касается Беларуси, то, по словам еврокомиссара ЕС по вопросам расширения и политики добрососедства **Штефана Фюле,** “как только не будет политзаключенных и пройдет их реабилитация, Евросоюз готов пойти не только на построение прочной основы двусторонних отношений между ЕС и Беларусью, но и говорить о реформе программы, поддержке модернизации Беларуси в рамках амбиций белорусского народа”.

Кстати, делегацию, поехавшую на вильнюсский саммит, возглавил министр иностранных дел Беларуси **Владимир Макей.** .

**Игорь МОРОЗОВ.**

## *Живая цепь до Европы*

Вчера в Киеве продолжились протесты против решения украинского руководства не подписывать на данном этапе соглашение об ассоциации с Евросоюзом. Несколько сотен человек, в основном студенты, выражали свою позицию на площади Независимости в центре украинской столицы. Там же установлено несколько палаток.

Сегодня, в пятницу, сторонники евроинтеграции планируют соединить столицу Украины с Европой живой цепью, в которой от Киева до польской границы, как ожидается, выстроятся около полумиллиона человек.

## *Грузия парафировала соглашение об ассоциации с ЕС*

Грузия парафировала (предварительно утвердила) соглашение об ассоциации с Евросоюзом. Парафирование документа состоялось в Вильнюсе, где проходит саммит “Восточного партнерства” — интеграционной программы ЕС для стран бывшего СССР (в этой программе участвует в том числе и Грузия). С грузинской стороны соглашение утвердил замминистра иностранных дел **Давид Залкалиани.** Он заявил, что для его страны это является “историческим событием”. Подписание договора об ассоциации планируется в 2014 году.

**ОТКРЫТЫЙ ВОПРОС**

# Что за государственная тайна?



Такие истории могут случиться только у нас. В среду утром сайт известного спортивного издания страны сообщил о задержании сотрудниками КГБ вице-президента Национального олимпийского комитета **Владимира Коноплева** и экс-менеджера оргкомитета чемпионата мира по хоккею **Геннадия Алексеенко.** Первый, как известно, друг детства Александра Лукашенко, в прошлом — председатель Палаты представителей. Второй — бывший помощник президента по вопросам физкультуры и спорта. Согласно распространенной информации, в изоляторе КГБ они провели три дня.

Журналисты всех независимых СМИ страны, естественно, тут же начали искать подтверждения либо опровержения этой информации. Телефоны самих героев скандала молчали. Их друзья-помощники признавали, что подробностей не знают, но действительно и Коноплев, и Алексеенко в последние дни куда-то пропали, даже в бане, где они любят бывать, их на этот раз не видели. Пресс-службы правоохранительных ведомств лепетали нечто невнятное в духе: “Ни подтвердить, ни опровергнуть не можем”.

Однако к вечеру того же дня живые и здоровые Коноплев и Алексеенко вдруг стали отвечать на телефонные звонки, опровергая свое задержание. “Не обращайте внимания на эту ерунду!” — в частности,



сказал Владимир Коноплев.

Ничего себе ерунда! О тебе распространена такая убийственная информация, а ты говоришь: “Ерунда”?

И ещё. Что же это за КГБ, который не может четко сказать общественности, задерживались Коноплев и Алексеенко или нет? Что за государственная тайна?

**Петр БУЛЫНКИН.**

**Я ВАМ ПІШУ**

## *Алег ВОЛЧАК:* *«Можа быць, з гэтай спробы нешта зменіцца...»*

*Старшыня і сустаршыня аргкамітэта па стварэнні грамадскага аб’яднання ветэранаў баявых дзеянняў “Абаронцы Айчыны” Алег Волчак і Аляксандр Камароўскі накіравалі Генеральнаму пракурору Беларусі скаргу на дзеянні адміністрацыі гродзенскай турмы, у якой утрымліваецца палітзняволены Мікалай Аўтуховіч.*



**Алег Волчак** і **Аляксандр Камароўскі** адзначаюць, што яны ўжо звярталіся са зваротам у Генеральную пракуратуру, але тая скарга была накіравана ў орган, на які скардзіліся, — упраўленне Дэпартамента выканання пакаранняў МУС Беларусі па Гродзенскай вобласці.

*“Лічым, што гэта няправільная пазіцыя пракуратуры — ухіляцца ад нагляду*, — пішуць А.Волчак і А.Камароўскі ў скарзе. — *Па выніках першай праверкі мы прыйшлі да высновы, што яна праведзена няпоўна і не адказала на ўсе пастаўленыя намі пытанні. Выконваючы абавязкі ўпраўлення ДВП па Гродзенскай вобласці Мірон пацвердзіў, што праблемы са здароўем у Мікалая Аўтуховіча ёсць. Яны былі ўстаноўлены, калі яго аглядалі медыкі. Але якім чынам адміністрацыя турмы збіраецца лячыць Аўтуховіча, не патлумачыў”.*

— Парадокс! Прадстаўнік УДВП па Гродзенскай вобласці заяўляе, што ў Аўтуховіча няма хвароб, якія перашкаджалі б адбыццю пакарання, і ў той жа час да чалавека прыходзіць кансіліум урачоў, — кажа Алег Волчак. — Чаму Мікалая да гэтага часу не накіравалі ў ваенны шпіталь для абследавання, як сказалі ўрачы ў сваім заключэнні? Вядома ж, што з-за адсутнасці зубоў Аўтуховіч не можа паўнацэнна прымаць ежу. Яму неабходна рабіць імплантаты. Хіба гэта не падстава змяніць пакаранне на больш мяккае? Мы звярнуліся да Генеральнага пракурора з нашымі пытаннямі і спадзяёмся, што пракуратура правядзе аб’ектыўную праверку дзейнасці адміністрацыі турмы ў Гродне. Можа быць, з гэтай спробы нешта зменіцца...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**ПАД ГРАДУСАМ**

## *Снег з дажджом*

Сёння ў Беларусі чакаецца мокры снег, слабая завіруха. Ападкі пройдуць па большай частцы тэрыторыі нашай краіны.

У суботу таксама прагназуецца снег, а ў нядзелю на захадзе краіны яшчэ і дождж.

ПРАБЛЕМА

# Чаму ў калоніях «цэнзуруюць» лісты зняволеных?

*Паштовая перапіска для тых, хто знаходзіцца за кратамі, — гэта глыток вольнага паветра. Калі дазволены... Калі лісты прайшлі цэнзуру...*

З "палітычнымі" ўсё зразумела. У калоніях яны знаходзяцца пад асобым кантролем. Гэтаксама, як і іх перапіска з сябрамі, блізкімі і паплечнікамі.

Былы палітвязень **Зміцер ДАШКЕВІЧ** распавёў "Народнай Волі", што за час свайго зняволення напісаў і атрымаў тысячы лістоў. Дзясяткі (а можа, і сотні) — зніклі.

— Тут найперш трэба сказаць, што вельмі моцна ўсё залежыць ад узроўню ашалеласці адміністрацыі той альбо іншай калоніі, — кажа Зміцер. — У некаторых месцах проста немагчыма было ні пра што пісаць. Напрыклад, у калоніі ў Горках я напісаў на волю, што адсядзеў тэрмін у штрафным ізалятары. Прыносяць ліст назад: "Такое нельга пісаць. Перапісвай наноў". Пытаюся: "На якой падставе?" Адказу не пачуў. Хаця, здавалася б, што там утойваць? Усе і так ведалі, што я быў у ізалятары. З Віцебска напісаў, што правёў дзень у "стакане" на бетоннай лаве. Ізноў забарона. У мінскім СІЗА на Валадарскага быў



перыяд, калі знікла некалькі дзясяткаў лістоў. Дакладна гэта ведаю, бо ўсе свае лісты ў абавязковым парадку нумараваў. На мае скаргі — як адрэзалі: "Не дуры галаву, табе ўсё аддалі". А пасля, недзе праз паўтара года, тыя 30 лістоў знайшліся. Аказалася, што іх кінулі ў камеру, дзе мяне ўжо не было. Дык хто каму "дурыў галаву"?

*"З Гродна напісаў віншаванне з Днём нараджэння Ірыне Халіп. А пасля чытаю, што Ірына атрымала гэтае віншаванне ледзь не праз паўгода. Значыцца, ёсць нейкая служба, якая блакіруе пошту",* — робіць выснову суразмоўца.



— У мяне таксама былі праблемы з атрыманнем лістоў, — кажа яшчэ адзін былы "палітычны" **Сяргей СКРАБЕЦ**. — Маглі пусты канверт аддаць, а то і наогул пісьмо знікала. Адзін час зарэтушоўвалі нейкія словы, а затым і гэта перасталі рабіць. Я пісаў скаргі, але рэакцыі ў адказ не было. Ведаю, такая ж сітуацыя была і з іншымі. Дарэчы, лісты на волю можна перадаць і па "турэмнай пошце", хоць палітзняволеным гэта зрабіць складаней. Яны пад асобым наглядам. Ды і іншыя "калегі" з-за гэтага не хочуць для сябе займець праблемы.

### КАМЕНТАРЫЙ ЮРЫСТА

## Павел САПЕЛКА: «Цэнзура існуе практычна для ўсіх зняволеных»

*Цэнзура паштовай перапіскі — гэта праблема толькі "палітычных"?*



— Такая цэнзура існуе практычна для ўсіх зняволеных — адзначае **Павел САПЕЛКА**. — Проста ў калоніях людзі, што называецца, кожны сам за сябе і не заўсёды інфармуюць аб сваіх праблемах грамадства.

**— Даводзілася чуць, што ў звычайных зняволеных няма асаблівых праблем з атрыманнем лістоў з волі і перадачай сваіх.**

— Ёсць цэнзура перапіскі, а ёсць яшчэ цэнзура скаргаў, якія зняволеныя дасылаюць у наглядныя органы. Праблемы ўзнікаюць на этапе абскарджвання тых ці іншых дзеянняў ці сітуацыі ў калоніі. Тады адміністрацыя стараецца, каб "смецце не вынеслі з хаты". Ды яшчэ могуць стварыць праблемы і тым, хто скардзіцца. Тут трэба сказаць, што лісты ў органы, якія маюць права кантраляваць парадак выканання пакарання, наогул не павінны цэнзуравацца. Але палажэнне парушаецца, таму што ні дэ-факта, ні дэюрэ не распрацаваны нормы, якія б гарантавалі зняволенаму свабоду перапіскі з наглядными органамі. Зрэшты, існуюць выпадкі, калі і звычайныя лісты дадому (ці з дому) не праходзяць цэнзуру. І людзям пра гэта могуць нават не сказаць. Ні тым, хто пісаў, ні тым, хто павінен быў атрымаць паведамленне. Атрымліваецца незразумелая сітуацыя, калі ніхто не ведае, дзе ліст згубіўся. А гэта ўжо незаконна.

**— І складана нешта даказаць?**

— Безумоўна. Калі пісьмо знішчаць, то няма ніякай судовай перспектывы ў канфлікце. Ліст знішчаны — нічога не дакажаш.

**— А як у іншых краінах?**

— Напрыклад, у Кітаі зняволеныя проста апускаюць ліст у скрыню, ключ ад якой знаходзіцца ў супрацоўніка нагляднага органа. Ва Украіне пытанне цэнзуры лістоў асуджаных падрабязна рэгламентавана Міністэрствам юстыцыі, у веданні якога знаходзяцца папраўчыя ўстановы. З 2013 года там дзейнічае новая Інструкцыя па арганізацыі прагляду перапіскі зняволеных. У адрозненне ад беларускіх турмаў, там з дазволу адміністрацыі ўстановы выканання пакаранняў на падставе пісьмовай заявы асуджанага магчыма нават перапіска паміж асуджанымі, якія знаходзяцца за кратамі і не з'яўляюцца сваякамі. У законе прапісаны канкрэтныя нормы, згодна з якімі карэспандэнцыя не падлягае прагляду. У Расіі не цэнзуруецца перапіска зняволенага з наглядными органамі.

**— Перапіска асуджанага з абаронцам у нас таксама падлягае цэнзуры?**

— Так, бо лічыцца звычайнай прыватнай перапіскай і падлягае цэнзуры. Гэта парушае адвакацкую таямніцу, пазбаўляючы зняволенага магчымасці без вялікіх выдаткаў атрымаць тлумачэнне адваката па тым ці іншым пытанні.

Адным словам, пытанняў шмат. І гэта на самай справе праблема, якую дзяржаўныя органы павінны вырашаць на заканадаўчым узроўні. Сорамна ж заставацца ў каменным веку...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**P.S.** *Праваабаронцы працягваюць маніторынг пенітэнцыярнай сістэмы. Калі вы валодаеце інфармацыяй пра становішча асуджаных і асоб, абмежаваных у правах у сувязі з утрыманнем у розных установах, ці хочаце распавесці пра асабістыя праблемы такога кшталту, пішыце на электронны адрас: info.zakratami@gmail.com альбо на паштовы адрас: 220114, Мінск, а/с 203.*

ПАРАЛЕЛІ

# МАЗ збанкрутуе?

*15 і 22 лістапада не працавала большасць падраздзяленняў МАЗа. Прастой аб'яўлены згодна з афіцыйным загадам генеральнага дырэктара прадпрыемства* ***Віктара Асноўскага*** *і абумоўлены спадам пакупніцкага попыту на прадукцыю МАЗа на расійскім і міжнародным рынках.*

Як паведамляе сайт www.praca-by.info, на прадпрыемстве ўтварыліся вялізныя складскія запасы гатовай прадукцыі, не хапае сродкаў на закупку матэрыялаў і камплектуючых вырабаў. Дні вымушанага прастою работнікам абяцаюць аплаціць у памеры 2/3 тарыфнай стаўкі.

Па інфармацыі Радыё Свабода, у прыёмнай гендырэктара МАЗа адмовіліся каментаваць вымушаны прастой на прадпрыемстве, спаслаўшыся на тое, што заводская газета "Аўтазаводзец" апублікавала вычарпальную афіцыйную інфармацыю па гэтым пытанні.

Былы дырэктар завода "Ударнік" **Васіль Шлындзікаў** лічыць, што ў рэшце рэшт гэтая сітуацыя можа скончыцца банкруцтвам МАЗа.

*"Гэта будзе такое банкруцтва, якое прымусіць прадпрыемства рэканструявацца з улікам рынкавых формаў гаспадарання,* — кажа Васіль Шлындзікаў. — *Нешта падобнае ўжо адбывалася ў краінах Усходняй Еўропы. Напрыклад, "Ікарус" у Венгрыі. Гэта быў цудоўны завод, які працаваў на ўвесь СССР ды і на ўсю Еўропу. Пасля распаду СССР ён развалўся. Але з частак гэтага завода ўзніклі новыя, больш сучасныя прадпрыемствы. Калі МАЗ не можа прадаваць сваю прадукцыю, дык павінен выпускаць іншую. А такі завод можа вырабляць усё што заўгодна: камунальную тэхніку, агрэгаты. Людзі, калі ім даць свабоду і магчымасць, знойдуць тое, што будзе выгадна выпускаць.*

ІНІЦЫЯТЫВА

# У Еўропу — без візы!

*Недзяржаўныя арганізацыі заклікаюць еўрапейскіх чыноўнікаў выдаваць беларусам болей шматразовых віз, а таксама зменшыць ці цалкам скасаваць плату за візы.*

У звароце да еўрачыноўнікаў грамадскія арганізацыі адзначылі, што *"попыт беларусаў на шэнгенскія візы яшчэ не задаволены".* І гэта нягледзячы на сталы рост колькасці выдадзеных беларусам віз, а таксама адну з самай невысокіх у свеце долю адмоў у візах. Акрамя гэтага, прадстаўнікі кааліцыі адзначылі, што з-за дзейнасці пасярэднікаў некаторым беларусам за візы даводзіцца плаціць болей за ўсталяваную ЕС цану ў 60 еўра.

Для даведкі: Грамадская кааліцыя "У Беларусь і Еўропу — БЕЗ ВІЗЫ!" была створана ў сакавіку 2011 г. шэрагам беларускіх арганізацый і даследчых інстытутаў пры падтрымцы партнёраў з краін Еўрапейскага Саюза. Мэта кааліцыі — адстойванне ідэі бязвізавага руху паміж Беларуссю і іншымі еўрапейскімі краінамі. Са спісам членаў кааліцыі можна азнаёміцца на сайце кампаніі "Без візы!".

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



*Елена МОЛОЧКО*

# Выдавить курение силой. Как пасту из тюбика

Я за жесткий антитабачный закон в нашей стране. Сама курила, сама бросала до победного конца и знаю: строгие отеческие предупреждения Минздрава на сигаретных пачках любыми, хоть аршинными, буквами, курильщикам, что слону дробина. Человек, особенно молодой, защищен от мыслей о болезни и смерти великими силами природы. Ну, скажи любому 25-летнему с сигареткой в зубах: "Курение убивает. И знаешь, ты ведь тоже смертен..." Услышишь с улыбкой: "Ну и что? Ха-ха..." И еще поиграет перед тобой мускулами, блеснет румянцем на щеках.

А скажи об опасности курильщику со стажем, человеку зрелому, уже наверняка с приобретенными болячками, тот все равно устало отмахнется, ответит: "Жизнь такая..." Привычка-то дороже. Или какую-нибудь древнюю пошлость изречет: "Кто не курит и не пьет, тот здоровеньким умрет". Тоже не пробьешься сквозь защитные реакции организма, тем более когда мозг уже десятилетиями порабощен никотиновым ядом. Нет, борьбу с курением, по-моему, можно выиграть только запретами. И штрафами. В общем, диктатурой строгих правил. Чтоб они из тебя выдавили недуг, как пасту из тюбика.

Я бросала курить несколько раз. Но окончательно и бесповоротно — перед поездкой за границу, в Германию. Если местный там еще может найти место, чтобы сделать несколько затяжек, — у себя дома, например, то приезжему человеку в Германии курить негде. В гостинице нельзя, в ресторанах нельзя, на вокзалах нельзя... На рабочих местах тем более. Штраф — 500 евро. Не шуточки, правда? А в Ирландии вообще рекордные для Европы 3000 евро! В общем, я хоть и не в Ирландию ехала, но представила, сколько личных неудобств предстоит и какой урон собственному бюджету могу нанести глупой зависимостью от белой бумажной палочки с начинкой из старых листьев... И пошла на МРТ (на микроволновую резонансную терапию, метод доступный, широко разрекламированный, и не зря — помогает). Опять-таки признаюсь: о здоровье я в тот момент думала лишь во вторую очередь. Меня подвигли на лечение от зависимости прежде всего предстоящие огромные неудобства (в немецкие кусты, что ли, прятаться с сигаретой?) и нормальное беспокойство потерять большие деньги.

Вот так устроен человек. Стадное животное, но с творческим разумом, говорил академик Амосов. Своего счастья сам не ведает, на слово не верит, будущих рисков не боится. Реагирует только на прямую опасность. Но если хорошенько прижать — подчинится. И еще "спасибо" потом скажет. В общем, требуется сила. Запрет, давление извне вплоть до материального наказания — и только тогда человек, уставший раб желаний, возвращается к самому себе, к свободной от зависимости жизни. Вот и я теперь, естественно, горжусь собой — освободилась от таких пут! А не было б запрета?.. Не было б строгих правил чужой страны?.. Не было б нужды скорректировать свое поведение?.. Тянула бы, наверное, до сих пор, выбегая на улицу из офиса, как собачонка. Или стояла бы на черных лестницах у оплеванных, как правило, стен.

Мне рассказывал однажды попутчик в поезде: его карьера в США буксует из-за курения. Менеджер сказал ему, что он, по мнению администрации, безвольный человек, раз не может бросить курить. Там многое человеку говорится в глаза — считается, что для оздоровления коллектива и работника это психологически оправданно. У-у-у, капиталюги... Попутчик почти бесился от негодования (видно, больше негде было, только как в купе перед случайными людьми). Впрочем, он, чувствовалось, немного рисовался, гордился собой: вот, бросаю вызов американской деловой машине, американским деньгам и, хотя остаюсь вот уже несколько лет на одной и той же позиции в компании, продолжаю курить. Но... Что-то мне подсказывает, недолго парень побрыкается, польстит своему пороку. Потому и кричит прилюдно, что в последний раз. В США для курения нет условий. Глобально нет. Люди с сигаретой там вытесняются в своеобразное гетто, на собственном балконе и то, кажется, курить уже нельзя. Бросит и он, куда денется! В Нью-Йорке еще в 2010 году был принят закон, запрещающий курить на площадях, в парках и на пляжах. Еще ранее в городе запретили курить в барах и ресторанах, возле детских площадок и во время культурных мероприятий на открытом воздухе. Само собой, в офисах и театрах. На борьбу с курением мэр Блумберг выделил, в частности, свои личные средства в размере нескольких сотен миллионов долларов. Идет масштабное наступление на табак. Без скидок и поблажек.

Я вот еще что замечала. Красиво курить люди практически не умеют. Здесь нужен жест, красивая кисть руки, осанка, плечи. Время и место. Это же было когда-то древним магическим ритуалом. А превратилось в общедоступный плебейский шаблон: скукожившись, сгорбившись, за углом, у подъезда, на лестнице, у забора, в тамбуре, на остановке. Между прочим, мимоходом... Массовое никотиновое помешательство.

Есть ли у меня надежда, что антитабачный закон, проект которого проходит сейчас общественные обсуждения, будет принят в Беларуси в следующем году? Надежды мало. Или будет принят, но пока с большими оговорками в пользу курильщиков. Продажа сигарет (они, кстати, дорожают с 1 декабря) дает в казну немалые прибыли. Как и алкоголь, казино. Так что пока в стране работают игорные дома, пока крепкие напитки будут продаваться в каждой лавке, оставят лазейки и для курильщиков. Сизый дым не скоро рассеется над Беларусью. Бедным странам не по карману нравственность. Как и настоящая забота о здоровье граждан.



**Красиво курить люди практически не умеют. Здесь нужен жест, красивая кисть руки, осанка, плечи. Время и место. Это же было когда-то древним магическим ритуалом.**

КАРУПЦЫЯ

# Як чыноўнікі вырашаюць жыллёвае пытанне

*Пракуратура Мінскай вобласці перадала ў суд крымінальную справу на экс-старшыню Мінскага райвыканкама, які цяпер працуе кіраўніком адной з камерцыйных арганізацый.*




Следства выявіла, што ў 2007 годзе намеснік старшыні выканкама, маючы жыллё ў Мінску, скарыстаўся службовымі паўнамоцтвамі. З яго падачы райвыканкам прыняў незаконнае рашэнне пра вылучэнне яму кватэры ў элітным раёне ў цэнтры Мінска плошчай больш за 100 квадратных метраў. Гэтую кватэру чыноўнік пазней прыватызаваў, паведамляе БелаПАН.

У 2009 годзе чыноўнік незаконна перадаў бясплатна два зямельныя ўчасткі ў прыгарадзе Мінска ў пажыццёвае спадчыннае валоданне грамадзянам, якія не мелі патрэбы ў паляпшэнні жыллёвых умоў. У адпаведнасці з заканадаўствам, яны маглі набыць гэтыя ўчасткі толькі на аўкцыёне. На момант вылучэння камерцыйны кошт кожнага з участкаў складаў 30—40 тысяч долараў.

Як паведамляе Следчы камітэт, былога чыноўніка абвінавачваюць у злоўжыванні ўладай і службовымі паўнамоцтвамі, учыненымі з карыслівай асабістай зацікаўленасці службовай асобай, якая займае адказнае становішча.

ПРОДОЛЖЕНИЕ ТЕМЫ

# «Уже заселились в дом... А все началось с «Народной Воли»

*В поселке Белыничи многодетные семьи заселились в квартиры, но не могут оплатить их полную стоимость. Кто оплатит разницу между заявленной правительством и конечной стоимостью квадратных метров? Не окажутся ли многодетные семьи на улице?*

В начале этого года мы рассказали о ситуации с кооперативом "Двенадцать" в поселке Белыничи Могилевской области. Напомню суть дела.

В 2012 году белыничские власти проявили заботу о многодетных семьях и сами инициировали создание жилого кооператива для 12 многодетных семей. Обещали, что с финансированием проблем не будет и уже в декабре 2012 года семьи справят новоселье. Но в декабре только начали рыть котлован под новый дом, а в январе 2013 года пересмотрели смету и посчитали, что стоимость одного квадратного метра в этом доме возросла с 6,4 миллиона рублей до 7,9 миллиона. То есть стоимость квартир резко возросла. Но, возможно, многодетные семьи и согласились бы платить по таким счетам, все же государство сохранило за ними право на льготные кредиты при строительстве жилья под 1% годовых на 40 лет, но дело в том, что буквально в это же время — в конце 2012 года — Совет министров издал постановление "О мерах по выполнению задач на 2013 год по строительству жилых домов" и ограничил цену квадратного метра для "льготников" пределом в 4,6 миллиона. То есть получалось, что льготный кредит многодетные семьи из Белыничей могли взять только на сумму, которая рассчитывалась, исходя из стоимости одного квадратного метра 4,6 млн рублей. А разницу стоимости строящихся квартир они должны были доплатить из собственных средств: на "лишнюю" сумму льготный кредит им не выдавался. И, например, за квартиру в 100 квадратных метров многодетной семье без всякого льготного кредитования надо было доплатить еще 330 миллионов рублей.

Многодетные семьи это, конечно, не устраивало. У них попросту не было таких денег. И они стали настаивать: мол, стройте дом поскромнее, чтобы 1 квадратный метр стоил 4,6 миллиона, как определил Совмин для льготного кредитования. В январе в ситуацию якобы вмешался вице-премьер Калинин и дал распоряжение льготно кредитовать суммы, исходя из стоимости одного квадратного метра 7,9 миллиона. Но местные власти предложили семьям взять пока кредит на сумму, исходя из стоимости метра 4,6 миллиона. Остальную сумму обещали выдать потом на таких же льготных кредитных условиях. И многие семьи, чтобы не потерять квартиры, на такие условия согласились.

Чем закончилась эта история? Не обманули ли власти многодетные семьи?

Рассказывает председатель ЖСК "Двенадцать", отец троих детей **Петр Шимбалев**:

— История получилась действительно интересная...

Как только вышла публикация в "Народной Воле", мы стали писать во все инстанции: в Министерство архитектуры и строительства, в Министерство экономики, Госконтроль, Администрацию президента. И когда летом Александр Лукашенко устроил разнос, как он сам определил, "зажравшимся строителям", он упомянул и наш кооператив. Досталось тогда от Лукашенко и нашему "губернатору". А закончилось все тем, что Лукашенко дал указание, чтобы до осени наш дом был сдан и многодетные семьи въехали в новые квартиры.

Буквально через день-два после этого выступления главы государства к нам в Белыничи приехали журналисты с БТ. О нас заговорили на всю страну. И в августе дом был сдан. Но что получилось?

Мы взяли льготные кредиты, исходя из стоимости одного квадратного метра 4,6 миллиона, а цена квадратного метра осталась 7,6 миллиона. Нас стали просить взять кредит на оставшуюся сумму под 12% годовых. Мы, конечно же, отказались, потому что не смогли бы рассчитаться с банком. Например, лично мне пришлось бы выплачивать банку 4,5 миллиона рублей в месяц! А на что мне тогда кормить троих детей?! Тогда нас стали принуждать выйти из кооператива. Мы держались, ни на какие сделки не шли.

В августе в Белыничи приехал нынешний министр архитектуры и строительства Анатолий Черный, а тогда он занимал пост первого заместителя председателя Могилевского облисполкома, и нам раздали ключи. Черный сказал, что государство будет думать, как погасить разницу стоимости квартир.

Сейчас ситуация такая. Почти все семьи въехали в новые квартиры, оформили техпаспорта, льготный кредит платим, исходя из стоимости одного квадратного метра 4,6 миллиона. То есть разница осталась. Кто будет доплачивать? В начале ноября вопрос о полной оплате стоимости дома подняло руководство Белыничского ПМК-241, то есть те, кто его строил. И их понять можно: получается, что на ПМК повесили эти расходы... Они выставили эту претензию КУП "Белыничский КАПСтрой", но и нам намекнули: мол, если нас сильно прижмут, то мы и вас привлечем платить. На что я ответил: если вы хотите, чтобы наша история опять зазвучала, значит, она зазвучит. Многодетные семьи не виноваты, что Совмин пишет постановления, а на местах их реализовать не могут. Не надо было заказывать такой дорогой проект!

А вообще, я думаю, что все началось с истинно народной "Народной Воли". Вы первые о нас на всю страну рассказали. И теперь мы уже живем в новых квартирах. Я думаю, что ни у кого не поднимется рука выселить нас на улицу...

**Мария ЭЙСМОНТ.**

